# БЕЛАРУС

Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне у ЗША
Published by Byelorussian - American Association, Inc.
Address — Адрыс: Byelorussian-American Association, Inc.
435 New Jersey Ave, Brooklyn 7, N. Y., U. S. A.
Падпіска на год $ 2.50 — Subscription per year — $ 2.50
Рэдагуе Рэдакцыйная Калегія

PRICE 10 ¢ ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ У З. Г. А. BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER IN THE USA 10 ЦЭНТАЎ

Год IV. № 2 (26) 24 Студзеня 1953 г. NEW YORK, N. Y., U. S. A. January 24, 1953 Vol. IV. № 2 (26)

## »НАБЛІЖАЕЦЦА ЧАС НАВАЛЬНІЦАЎ«...

***(Прэзыдэнт Айзэнгаўэр пераняў свае высокія абавязкі у поўным разуменьні павагі часу)***

20-га студзеня 1953 году а паўдні новы, 34-ты па ліку прэзыдэнт ЗША Двайт Д. Айзэнгаўэр, прысягнуўшы на вернасьць Канстытуцыі, пераняў з пачуцьцём глыбокага хваляваньня апеку над лёсам і свайго шматмільённага народу, ды й усяго сьвету.

Сама ўрачыстасьць прысягі была, на жаданьне Прэзыдэнта, пажаўнерску кароткая й простая. І мо' таму якраз яна зрабіла на прысутныя сотні тысячаў людзёў гэткае глыбокае ўражаньне.

Прэзыдэнт прысягаў на сходах Капітолю, на старой біблііі, якая належала некалі першаму прэзыдэнту ЗША Джорджу Вашынгтону. Урачыста прагучэлі ў цішыні простыя словы:

— „Я, Двайт Д. Айзэнгаўэр урачыста прысягаю, што буду паступаць справядліва"... І паўтарыўшы за галоўным сябрам Вярхоўнага Суду Вінсанам усю прысягу, Прэзыдэнт скончыў:

— „Хай дапаможа мне ў гэтым Бог".

З інаўгурацыйнае прамовы новага прэзыдэнта відаць, што ён з усёй павагай уяўляе й лепш чымся хто разумее сваё цяжкое заданьне кіраўніка й абаронцы людзкіх мільёнаў. Цьвяроза ставіцца Прэзыдэнт Айзэнгаўэр і да гэтых сваіх заданьняў і да пагрозьлівага палажэньня на сьвеце.

— „Здаецца, што над краінамі сьвету зьбіраецца навальніца", казаў Прэзыдэнт. — „Час, у якім мы жывем, — эпоха вялікіх выпрабаваньняў для нашае краіны... Азія кіпіць, Эўропа загрожаная... Новая моц — інтэрнацыянальны камунізм імкнецца паняволіць слабейшыя народы, падмінаваць дужэйшыя, нясьціханна працуе, каб бянтэжыць, раскідаць, паняволіць. Старыя праўды адкідаюцца, новыя творацца. Навука спрычынілася да вынаходу жахлівых прыладаў зьнішчэньня...

Таму сяньняшнія часы вымагаюць ад нас усіх ахвяраў дзеля справы супакою на зямлі. Гэта справа ня толькі нашая, мы дзелім яе з усімі вольнымі народамі. І з тымі, якія вераць разам з намі ў людзкі гонар, мы задзіночаныя ня толькі шляхотнай ідэяй, але й звычайнай патрэбай. Мы патрабуем іхнае дужасьці, каб падтрымаць собскую моц. Пагроза маналітычнага камунізму расьцягваецца на ўвесь сьвет. Мэта ягоная — паняволеньне, мэтады ягоныя — паслабляць і апаноўваць. Мы мусім мець сяброў і саюзьнікаў, калі хочам перамагчы. І мы перакананыя і неабходнасьцяй і вераю, што моц усіх вольных народаў ляжыць у адзінстве, а небясьпека ў сварках .

Асягнуць гэтае адзінства — заданьне нашага часу.

Мы верым таксама у моц і мы будзем працягваць будаваць гэтую моц. Мы будзем дапамагаць народам-сябром, мы будзем цярпліва змагацца за мір на трыбуне Задзіночаных Нацыяў і праз наладжаньне пагадненьняў між паасобнымі народамі.

— Нам хацелася-б, каб усе нашыя сябры у ўсім сьвеце ведалі, што пагрозу новае навальніцы мы сустракаем не з пачуцьцём боязі, а з упэўнасьцяй у сваю моц".

Гэткі больш-менш зьмест інаўгурацыйнае прамовы новага Прэзыдэнта. Прынцыпы-ж ягонага будучага паступаваньня дакладна выражаны ў зьмешчаных ніжэй дзевяцёх пунктах:

**— „1. Мы ненавідзім вайну й ня лічым яе найлепшым сродкам супроць тых, хто нам награжае. Але мы лічым, што далейшае памацненьне нашых сілаў паўстрымае агрэсара. Мы гатовыя супрацоўнічаць з усімі дзяржавамі ў іхных спробах адхіліць прычыны страху й недаверу.**

**2. Разумеючы ўсю дарэмнасьць уціхаміраньня агрэсара, мы не зьбіраемся уступаць із ім у пазбаўлены гонару гандаль, цаною нашае чэсьці й бясьпекі. У рэшце рэштаў ланцугі нявольніка цяжэйшыя за торбу жаўнера.**

**3. Разумеючы, што толькі дужая Амэрыка можа забясьпечыць свабоду й супакой, мы лічым неабходным павялічыць нашую моц і нашую прадукцыйнасьць для дабра ўсяго чалавецтва. Абавязак усіх нашых свабодных грамадзян і ўсіх свабодных грамадзян іншых гаспадарстваў — паставіць інтарэсы свае радзімы вышэй собскіх.**

**4. Шануючы традыцыі і духовую спадчыну ўсіх нацыяў, мы ня будзем нікому накідаць нашых собскіх палітычных ці эканамічных прынцыпаў.**

**5. Улічваючы патрэбы й магчымасьці нашых сяброў, мы будзем імкнуцца да таго, каб забясьпечыць ім упакой і дабрабыт. Мы будзем таксама лічыць на тое, што яны самі возьмуць на сябе, у меру сваіх магчымасьцяў, частку агульнага цяжару.**

**6. Бяручы на ўвагу, што здаровая эканоміка творыць неабходную базу для забясьпечаньня міру свабоднаму чалавецтву, мы будзем імкнуцца да таго, каб усюдых і ў сябе самых падтрымліваць вытворчасьць і гандаль. Зьбядненьне аднае нацыі можа мець уплыў на дабрабыт усяго сьвету.**

**7. Прызнаючы, што эканамічныя, палітычныя й ваенныя інтарэсы дыктуюць дзяржавам неабходнасьць задзіночвацца ў мясцовыя саюзы, мы ўсё-ж спадзяемся памацніць у рамах Задзіночаных Нацыяў ніці сяброўства й з рэштаю гаспадарстваў сьвету.**

**Мы спадзяемся, што правадыры Эўропы будуць імкнуцца да зьдзейсьненьня пляну задзіночаньня. Бо толькі Задзіночаная Эўропа патрапіць супольнымі сіламі і з нашай дапамогай захаваць сваю духовую й культурную спадчыну.**

**8. Лічачы, што й свабода, і справа абароны свабоды — адна непадзельная рэч, — мы з аднолькавай павагаю ставімся да ўсіх земляў і да ўсіх нацыяў. Мы з усёю павагай адкідаем тэорыю, што адна раса ніжэйшая за іншую, ці адзін народ лепшы, а іншы — горшы.**

**9. Прызнаючы Задзіночаныя Нацыі жывым сымбалем усіх нашых спадзяваньняў на мір, мы будзем імкнуцца да таго, каб зрабіць іх ня сымбалем, а жывою сілай.**

**Мы павінны дзейнічаць разумна, працаваць пільна, навучаць гэтаму іншых і важыць кажнае слова й чын. Мір, да якога мы імкнемся, — ня што іншае, як выяўленьне нашай собскай веры. Гэта ня толькі ўцекі ад сьмерці, але й абраз жыцьця".**

## НАШ ПЕРШЫ АБАВЯЗАК

Мы жывем у мамэнт, калі мо' будуць вырашацца рэчы гістарычнае вагі для кажнага народу. Кажны дзень прыносіць новыя падзеі, якія прастаюць у кірунку насьпяваньня разьвязкі паміж двума сьветамі. Вось чаму сяньня актывізуюцца ўсе сілы ў сьвеце, каб сустрэць заўтрашні дзень ня толькі з выразнымі палітычнымі дэвізамі, але й з рэальнай падрыхтовай собскіх сілаў, з патрэбнымі забесьпячальнымі сувязямі, што становяць рэальную базу для ужыцьцяўленьня палітычных дэвізаў.

Сяньня ЗША ўзначалілі антыбальшавіцкія сілы ў сьвеце. Ужо гэта гаворыць за тое, што ЗША будуць граць першую ролю і ў вырашэньні усіх дзяржаўна-палітычных праблемаў, якія паўстануць на руінах бальшавіцкай імпэрыі.

Асаблівасьці перажыванага мамэнту ўскладаюць неабыякія абавязкі на ўсю беларускую эміграцыю, асабліва на нашую эміграцыю ў ЗША, вымагаюць актывізаваньня найперш палітычнай дзейнасьці ды скіраваньня яе у адзінае ідэйна-палітычнае рэчышча.

Замкнутасьць у сваім асяродзьзі-галоўны наш грэх. Як і два гады таму,мы гэтак-жа сама адзначаем сяньня нашыя нацыянальныя сьвяты, мы гэтак-жа зьбіраемся на сходы ці зьезды й блізу нічога ня робім, каб нашую справу вынесьці па-за тыя будынкі, дзе мы зьбіраемся. Пры сустрэчах міжсобку мы гаворым пра палітычныя падзеі ў сьвеце й гэтак-жа сама ня робім для сябе жыцьцём патрабавальных практычных высноваў. Мы бачым, прыглядаемся, разумеем, што адбываецца ў сьвеце й не мабілізуем сваіх собскіх сілаў. Бачым і разумеем, але гаворым так пра палітычныя падзеі, нібы як два прыяцялі, што перадаюць адзін аднаму цікавыя навіны.

Мы гаворым пра розьніцу старой і новай беларускай эміграцыі, навет рэклямуем разгортваньне працы новай эміграцыі у кірунку ейнага нацыянальнага самазахаваньня й нацыянальнай самасьведамасьці, але ставім на гэ-

(Канец на 2 бач.)

## Бальшавіцкае людазабойства

Перад намі ляжыць „Краткий словарь иностранных слов" маскоўскага выданьня за 1951 г. На балонцы 89 стаіць слова „геноцид". Вось што напісана ў савецкім слоўніку пад гэтым словам: (грэцкае - **genos** — род+лацінскае **caedere** - забіваць) — вынішчэньне паасобных групаў жыхарства з расавых і нацыянальных (рэлігійных) матываў — найцяжэйшы злачын супраць чалавецтва, які робяць імпэрыялістыя. Гэнасыд арганічна зьвязаны з фашызмам і расістоўскімі „тэорыямі", якія прапагандуюць расавую і нацыянальную нянавісьць (панаваньне г. зв. „вышэйшых" расаў і вынішчэньне г. зв. „ніжэйшых" расаў).

Мы знарок прывялі ўсю гэтую даўгую вытрымку, падзяляем тлумачэньне згаданага слова ў савецкім слоўніку ды без ніякіх агаворак скіроўваем усё гэта ў дачыненьні да самога Савецкага Саюзу, дзе гэнасыд гэтак шырака практыкуецца аж на працягу колькіх дзясяткаў гадоў.

Бальшавіцкі вынахад блага змайстраванай „тэорыі" пра „старэйшага брата" зьяўляецца чысьцюсенькім расізмам, тэй-жа вышэйшай расай-нацыяй, пра якую гаворыцца ў савецкім слоўніку. Адно дзеля прапагандавых мэтаў, як даніна часу — слова „раса" заступлена словам „брат". Але ці-ж вынішчэньне „малодшых братоў"-(нацыяў) перастае быць вынішчэньнем адно таму, што той, хто вынішчае, названы йначай? Гэта-ж на чырвоным крамлёўскім імпэрыялізьме ўжо выраcьлі, калі браць самы апошні час, такія красачкі, як г. зв. „краіны народнай дэмакратыі".

Пра бальшавіцкі гэнасыд сьвет ведаў, ягоныя вушы разьдзіралі пакутніцкія крыкі вынішчаных цэлых падсавецкіх народаў. Сьвет ведаў і чуў пра гэта, але адварочваўся, каб ня ведаць і ня чуць. І адно апошнім часам, нібы каб выкупіць віну за мінулае, пачалі сям-там гаварыць пра бальшавіцкія гэнасыдаўскія злачыны.

Што гэта было — абыякавасьць, боязь ці гандаль? Усё разам.

Міналі дзясяткі гадоў, вынішчаліся мільёны людзей розных нацыяў і сьвет, ведаючы пра гэта, маўчаў. Пачалося ў 1917 годзе. Дакацілася да жахлівых трыццатых гадоў, сягнула аж да масавых шыбеніцаў у часе другое сусьветнае вайны й коратка пасьля яе — а сьвет ня бачыў, бо не хацеў бачыць.

Вынішчэньні й дэпартацыя мільёнаў беларусаў, украінцаў, народаў Каўказу заходнія палітыкі ды розныя аматары тварэньня „грамадзкае думкі" цынічна называлі „нутраным экспэрымэнтам" бальшавікоў у сваёй імпэрыі. А індыйскі Нэру навет дагаварыўся да такой дзікасьці, што ў Савецкім Саюзе нібы ўзорна разьвязана нацыянальнае пытаньне.

Маўкліва, абыякава ўспрыняў сьвет факт згладжаньня зь зямлі па другой сусьветнай вайне аж двух каўказкіх народаў. А ў часы прымусовай дэпартацыі падсавецкіх людзей заходнія дэмакраты абыякава пазіралі на іхныя самагубствы ды аддавалі зьвязаныя ахвяры бальшавіцкаму людажэрцу, каб выканаць „абавязак саюзьнікаў".

Ня чулі, былі абыякавымі, бо гэтага вымагала нейкая дзіўная палітыка, прыкідваліся, што верылі ў нейкую чалавечнасьць жахлівай бесчалавечнасьці.

Ня спыніўся гандаль на гэтым. Чалавечыя жыцьці й кроў зноў пайшлі, як разьменная манэта ўжо на большай міжнароднай палітычнай біржы праз розных індускіх асэсараў, каб коштам скрываўленай Карэі вылямантаваць Сталінаву згоду. І аж да гэтага часу дэмакратычны сьвет не сабраў усіх сваіх паасобных галасоў у дужы адзін голас з воклічам — годзе! Адно нядаўна, але без належнага міжнароднага рэзанансу былі „устаноўленыя" аддаўна добра ведамыя запраўдныя злачынцы Катыню.

А сяньня, калі ў Савецкім Саюзе пачалася й набывае на сіле хваля антысэмітызму, „ўсёведныя" газэтныя журналістыя ў прасьціні душы сваёй галасьліва пытаюць: што здарылася ў СССР?

Якое дзіўнае, запозьненае пытаньне! Мы, хто ня з прыгожых аддаляў назіраў за бальшавіцкай „нацыянальнай палітыкай", а хто перанёс увесь ейны жах на собскіх плячах, адказваем: робіцца тое, што рабілася на працягу ўсяго часу ў СССР — вынішчэньне тых, хто ў той ці іншы мамэнт уважаецца за найбольш „небясьпечнага", на кім можна спэкульнуць палітычна. Сяньня гэта робіцца ў дачыненьні да жыдоў. І гэта мае глыбокую сувязь з усёй пасьляваеннай палітыкай чырвонае Масквы, якая стала на шлях адкрытага разьвязваньня ўсіх ходаў і выходаў для чарнасоценнага расейскага шавінізму благіх царскіх часоў, на якім абапіраюцца сяньня бальшавікі ў сваёй і нутраной і вонкавай палітыцы.

Мела слушнасьць газэта „Ню-Ёрк Таймз" калі, праўда, між іншага згадала, што ў сваім антысэмітызьме савецкія валадары ідуць сьледам за царскай паліцыяй. На нашую думку пра гэта належыць гаварыць ня між іншага, а з гэтага, якраз, трэба й выходзіць.

Сяньняшні бальшавіцкі антысэмітызм з гледзішча нутранога разьвіцьця самога бальшавізму зьяўляецца зусім заканамернай зьявай пры ягонай палітыцы расейскага шавінізму ў дачыненьні да ўсіх падсавецкіх народаў. Таму бальшавікі мусілі прыйсьці й прыйшлі да аднаўленьня даўна знанага ў царскай Расеі антысэмітызму, які суправаджаўся крывавымі пагромамі, які выяўляўся ў праводжаньні „черты оседлости", у забароне для жыдоў мець зямлю, мець дзяржаўныя пасады ды ў абмежаваньні навучаньня. Антысэмітызм быў пакінуты расейскім царызмам у спадчыну сяньняшнім крамлёўскім валадарам і яны цяпер выцягваюць гэтую спадчыну (іншую выцягнулі ўжо даўно) на сьвет Божы. Вось чаму Сталін зьяўляецца спадкаемцам царскае чорнае сотні.

Але чаму якраз цяпер бальшавікі ўхапіліся за антысэмітызм, каб на ўзор царскай ахранкі „мабілізаваць грамадзкую думку" для апраўданьня собскіх злачынаў коштам жыдоўскай крыві? Чаму бальшавікі не зварачаліся да антысэмітызму раней? Тут былі палітычныя прычыны, зь якімі трэба было лічыцца.

Некаторыя заходнія газэты, а сярод іх навет салідныя палітычныя органы, ставяць цяперашні бальшавіцкі антысэмітызм у сувязь із змаганьнем за ўладу ў савецкай верхавіне. Але-ж сяньня там няма ніякіх канкурэнтаў на ўладу з боку жыдоў, яны ніякага ўплыву на крамлёўскую палітыку ня маюць і таму абсурдальным зьяўляецца прыпушчэньне навет магчымасьці выкарыстаньня антысэмітызму у „змаганьні за ўладу". Нельга-ж выкарыстоўваць таго, што ня мае ніякае рэальнае вагі з гэтага гледзішча. Сяньня няма там ні новага Троцкага, ні Каменева, ні Зіноўева. Кагановіч ніякае ролі ў бальшавіцкім алімпе ня грае, ён дажывае веку, як сваяк Сталіна, і ўсё.

Прычыны іншыя.

Да травеня 1948 году жыды ня мелі свае дзяржавы, былі расьцярушанымі, як бездзяржаўныя, па цэлым сьвеце. Бальшавікі тады ў сваіх мэтах на працягу доўгіх гадоў, каб казырнуць сваім чалавекалюбствам, „баранілі" жыдоў нібы больш, як саміх сябе, ад чаго мелі палітычную карысьць навет звонку.

Але становішча зьмянілася, калі зьявілася жыдоўская дзяржава Ізраэль. Ад гэтага часу жыды перасталі быць бездзяржаўнымі й таму да іх можна было ўжыць тую-ж самую палітыку, як і да людзей іншых нацыянальнасьцяў. Да жыдоў пачалі прыглядацца, ацэньваць іхныя пагляды й паводзіны прыстасавальна да магчымасьці іхнай палітычнай арыентацыі на жыдоўскую дзяржаву. Такім чынам, зьяўленьне жыдоўскае дзяржавы тут сталася адыходным пунктам, які даў магчымасьць для рознага палітычнага шантажу ў дачыненьні да падсавецкіх жыдоў. Скажам, зьвінавацiць раней жыдоў у выдуманым шпіянажы ня прынесла-б жаданага эфэкту, таму й не акцэнтавалася на жыдоўства. Зусім іншае сяньня.

Бальшавікі „прыхільна" паставіліся адразу да Ізраэлю, навет пасвойму „віталі" яго, маючы на ўвазе свае мэты. Нібы жадаючы прадэманстраваць перад сьветам сваю „павагу" да дзяржаўнага самавызначэньня прыгнечаных народаў, яны, сьледам за ЗША, прызналі Ізраэль. Кіруючыся ўсё тымі-ж собскімі мэтамі, яны навет пайшлі на дзівугодны для іх крок — прыпаднялі сваю непадымную заслону для жадаючых выехаць у Ізраэль жыдоў. Праз гэта чырвоная Масква спадзявалася экспартаваць у Ізраэль і сам бальшавізм. А калі з усяго гэтага нічога ня выйшла ды Ізраэль непарушна стаў на шлях супрацоўніцтва з заходнім сьветам і найперш з Амэрыкай, перакрыжаваўшы гэтым усялякую магчымасьць ператварэньня жыдоўскай незалежнай дзяржавы ў прыдатак да бальшавіцкай імпэрыі, тады маскоўскія бальшавікі крута павярнулі сваю палітыку ў іншы бок, якая й прывяла да антысэмітызму.

Разам з Ізраэлем жыды выступілі на міжнароднай арэне як дзяржаўная незалежная нацыя. Апрача гэтага ў жыдоўскіх руках на цэлым сьвеце сканцэнтраваныя вялікія капіталы, гэта значыць, што жыды ўплываюць на міжнародную палітыку, скіраваную сяньня супроць крамлёўскага таталітарызму.

Усё гэта разам узятае й сталася запраўднаю прычынаю таго, чаму бальшавікі сяньня спусьцілі з прывязі свой хаваны сьвету антысэмітызм. Сталін помсьціць за тое, што ня збыліся ягоныя спадзяваньні. Але гэта ўжо не „нутраны экспэрымэнт". Гэтым разам безаглядная Сталінавая помста, якая выклікала супроцьдзеяньне за межамі Савецкага Саюзу, мае дзьве мэты: „мабілізаваць" сваіх пад'ярэмных супроць усяго заходняга сьвету, а галоўнае — прыдбаць сабе прыхільнікаў найперш у Нямеччыне, за якую йдзе колькігадовае змаганьне паміж саветамі й заходнім дэмакратычным сьветам. Стаўка занадта вялікая, выйгранка за спакусьлівая, каб бальшавікі ня выкарысталі ў гэтай гульні найпадлейшых сродкаў. Правакацыйнасьць бальшавіцкага антысэмітызму дэманстрацыйна сягае аж на міжнародную арэну. Нядаўна выкрытая змова былых нацыстых у Заходняй Нямеччыне найлепш паказвае на сувязь расейскіх бальшавікоў і нямецкіх нацы.

Мы падзяляем заяву Амэрыканскага жыдоўскага работніцкага камітэту, у якой гаворыцца: „Нельга чакаць, пакуль лік ахвяраў сталінавай жорсткасьці яшчэ павялічыцца".

Задзіночанае выступленьне жыдоўскіх нацыянальных арганізацыяў на ўсім сьвеце ў імя маральнае абароны сваіх падсавецкіх суродзічаў можа быць найлепшым прыкладам і для нас. Бо калі йдзе пра інтарэсы нацыі, тады ня можа быць ніякіх разыходжаньняў.

**Яз. М-і.**

## Наш першы абавязак

тым кропку, апускаючы найважнейшае — кончую патрэбу, якая якраз і дыктуецца нацыянальнай самасьведамасьцяй: вынесьці нашую справу вонкі нас, гэта значыць ператварыць эміграцыю з „хатняе апрычонасьці" у шырокі палітычны дзейнік.

Мы гаворым пра нашую нацыянальную адданасьць, навет гатовасьць да самаахвярнасьці. Але як разыходзяцца словы з практыкай, калі адно зойдзе гутарка пра фінансаваньне нацыянальнае працы.

Да гэтага часу мы навет не маем людзей для жывой лучнасьці з амэрыканскімі палітычнымі дзейнікамі. Нейкі цяжар інэрцыі ўчарайшага дня, нічым недаравальнае інэрцыі вісіць над намі.

А тымчасам, як мы любім называць сябе гучным азначэньнем — палітычная эміграцыя! Гэтае азначэньне ўжываецца як дэвіз, як самаадзнака, нібы як абавязак і найчасьцей як дэклямацыя — благая хадульная дэклямацыя. Бо азначэньне палітычная эміграцыя найперш патрабуе упартай палітычнай дзейнасьці і сярод самое эміграцыі і вонках яе, гэта значыць, каб нашай справе штохвілінна прабіваць шлях да вырашальных палітычных дзейнікаў, каб яна сталася аб'ектам думаньня Дэпартаманту Стану, як гэта робяць іншыя эміграцыі. Для гэтага мы маем усе магчымасьці й падставы, адно ад слоў трэба перайсьці да справы.

Ужо колькі гадоў, як мы ў Амэрыцы, а амэрыканскія газэты блізу нічога ня пішуць пра Беларусь. Навет зьяўляюцца такія зьняважлівыя для нас рэчы, інсьпіраваныя нашымі ворагамі, што Беларусь — гэта такі абшар, дзе даўней наладжваліся жыдоўскія пагромы. Гэтак няўціхамірны расейскі чарнасоценец, які якраз і рабіў гэтыя пагромы, знаёміць амэрыканскага чытача з нашай Бацькаўшчынай. Тут нашая віна. У нас ёсьць людзі. Адно не зразумела, чаму яны не заўсёды маюць жаданьне выпхнуцца з свае „асабістае прынцыповае" адгароджанасьці, каб аддаць свае скромныя веды агульнай справе, каб дапамагчы данесьці нашую нацыянальную справу туды, дзе мо' заўтра будуць перакройвацца дзяржаўныя карты народаў.

Побач з нацыянальна-культурнай узгадавальнай працай сярод эміграцыі нам трэба прыдбаць апэтыт да прапагандова-палітычнай, а ў канцовым выніку дыпляматычнай працы, ад якой будзе залежыць посьпех усёй беларускай справы. Увесь цяжар працы мы мусім перанесьці на тое, каб беларускую справу вынесьці вонкі нас, ня толькі пры кажнай зручнай нагодзе інфармаваць афіцыйныя дзейнікі пра наш народ, пра ягоныя спрадвечныя нацыянальна-палітычныя імкненьні, а зрабіць гэта штодзённым нашым абавязкам.

Амэрыканскія дзяржаўныя справы абняў новы прэзыдэнт з сваёй адміністрацыяй. Наш абавязак неадкладна наладзіць сувязі з новымі амэрыканскімі палітычнымі дзейнікамі, выклікаць сярод іх зацікаўленьне беларускай справай, прыдбаць сярод іх сваіх прыхільнікаў. У гэтым сяньня галоўнае. Як мы спраўімся з гэтым — будзе ацэньвацца й наша запраўдная вартасьць.

І калі мы кажам, што мы, заўсёды гатовыя змагацца за Беларусь, дык гэтая заява абавязвае да змаганьня ўжо сяньня. Палітычна-дыпляматычная праца зьяўляецца мо' найважнейшай дзялянкай гэтага змаганьня за прышласьць нашага народу. Адно у гэтым выявіцца й нашая здольнасьць, і нашая нацыянальная самааддасьць. Адно праз гэта ўжо сяньня мы можам і мусім практычна прычыніцца ня толькі да вызваленьня Беларусі ад бальшавіцкага акупанта, але й да забясьпечаньня ёй галоўнага — незалежнай дзяржаўнасьці.

I. П.

### ПАМЁР ПРЭЗЫДЭНТ НЕЗАЛЕЖНАЕ ГРУЗІІ

Як паведамляе Амэрыканская Рада Незалежнай Дэмакратычнай Грузіі 11-га студзеня памёр у Парыжы Ноэ Джарданія, колішні прэзыдэнт Незалежнае Дэмакратычнае Грузіі ў гадох 1918-21.

Нябожчыку было 85 год. Памёр ён напярэдадні шырака пляванага грузінскім грамадзтвам сьвяткаваньня гадавіны ягоных народзінаў, даўгагадовае палітычнае і адданае грамадзкае працы.

П. Вішнеўскі

# Амэрыка й беларусы

(працяг)

IV.

Астаецца яшчэ прыглядзіцца аднэй не апошняе вагі справе, шчыра кажучы — вялікай анамаліі, якая ад канца вайны лягла цёмным ценем паміж намі і амэрыканцамі; яна-ж у вялікай меры і ёсьць беспасярэдняй прычынай таго нашага зьнеахвочаньня, а часам й недаверу да амэрыканскае палітыкі. Справай гэнай ёсьць амэрыканска-расейскія дачыненьні. Паколькі ёсьць яна цэнтральным пунктам нятолькі нашага зацікаўленьня а запраўды вельмі шырокага комплексу інтарэсаў, што зусім не прыпадкам зьбягаюцца па аднэй і той самай лініі сяньняшняга палітычнага крызысу ў сьвеце, разгляд яе ў рамах гэтага артыкулу ёсьць больш чым апраўданы.

На пачатак малое паясьненьне тэрмінаў. У якім разуменьні ўжываецца тут тэрмін „расейцы"? Усе мы добра ведаем, што ў старой Расеі ў справах дзяржаўнага значэньня народ ня меў, як і сяньня ў СССР ён ня мае, нічога да гутаркі. Народапраўства тут ніколі ня мела месца і гэта нічога дзіўнога для тых, каму ведомы дух расейскае гісторыі. Гэтым і выясьняецца, чаму ў 1917-ым годзе расейскі народ паказаўся палітычна недасьпелым, здольным дзеяць толькі на сваю ўласную шкоду, як бязвольная прылада ў руках рашучай і безадказнай клікі дэмагогаў. На працягу ўсяе свае гісторыі (за выняткам хіба толькі гадоў 1812-13 і 1941-45, калі дзеялі вонкавыя прычыны) народ гэты быў супроць свайго ўласнага ўраду — урад гэны заўсёды быў нечым, чаго народ мусіў баяцца. І праўда, было й ёсьць чаго баяцца... Расейскі народ гісторыі не тварыў і сяньня ён яе ня творыць. Ім адно карысталіся й карыстаюцца дзеля мэтаў, на якія ён ніякага ўплыву ня мае. За гэта-ж, калі гаворам тут аб расейцах, дык маем на думцы не расейскі народ, а тую тонкую сацыяльную праслойку, якая надавала там і надае сяньня тон жыцьцю ды становіць ягоныя нормы — ці гэта будзе старое дваранскае „сословие", ці вышэйшая камуністычная „кляса", — ці тая, што фактычна трымаець уладу ў руках, ці тая, што яе страціла, патэнцыяльная алігархія. Аб ёй тут гутарка. На гэта нельга забывацца.

Сучасныя амэрыканска-расейскія дачыненьні даводзіцца ўважаць за поўную анамалію. Былі яны ёю ад самага пачатку амэрыканска-расейскага зьбліжэньня улетку 1941 г. (дыпляматычныя адносіны навязаныя ў 1935 г.) і паміма глыбокіх зьменаў у амэрыканскай палітыцы, якія мелі месца з таго часу, асталіся такой па сучасны мамэнт.

Калі йдзе аб Крэмль, дык здаецца ўжо амэрыканцы даволі добра сабе уяўляюць, што за тыпы там сядзяць. Але ці з гэтага вынікае, што амэрыканцы дастаткова пазналі ўжо расейцаў? Судзячы па падзеях апошніх год, выходзіць што не, і то станоўка не. Поўны правал палітыкі і ўсяе місіі сп. Кеннэна, гэтага прызнанага тут спэцыялістага ў расейскіх справах, дае нашаму цьверджаньню моцную падпору. Можна было-б такіх падпораў дакінуць значна больш, але ня ў гэтым справа; нас цікавіць, што з такога стану рэчаў можа вынікнуць і што ўжо вынікла?

Калі чырвоная Масква на гарачую амэрыканскую прыязьнь (плюс „ленд ліз") адказала нязьменным холадам недаверу, а пасьля й зусім адкрытай, ярай варожасьцяй — калі ўрэшце славутыя спробы ўціхаміраньня ўзьюшанага расейскага медзьвядзя кончыліся поўным фіяскам, астаўляючы адно нясмак і балючыя дазнаньні — толькі тады ў Амэрыцы паверылі ў ганебныя мэтады й мэты сяньняшняе Масквы. Гэта лягічна паказвала-б на неадкладную патрэбу новае тактыкі, новых мэтадаў, новых дарог. Але, на вялікі жаль, іх ўсё яшчэ як няма, так няма. А гісторыі пакуль-што дазволена паўтарацца: як аднойчы шаноўны й пачцівы сп. Чэмбэрлен, упарта й пасьлядоўна праводзячы палітыку „недражненьня" Гітлера, дазволіў яму спакойна заварыць грозную катастрофу, так сяньня астаўляньне ініцыятывы ў руках Сталіна мае ўсе шансы даць нездаўга тыя самыя вынікі, узьведзеныя адно ў вышэйшую ступень, адпаведна да ягоных магчымасьцяў.

У сьвятле гэтае мала пасьлядоўнае й нягібкае палітыкі цікава выглядаюць спробы Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі, Нью-Ёрк, зарганізаваць з народаў СССР (без балтаў) супольны антыбальшавіцкі фронт. Як на сяньня зрэалізаваньне гэтае важнае й пільнае справы ідзе вельмі апорна й ненатуральна павольна. Усё-ж нельга браць гэтага за доказ злое волі пэўных дзейнікаў унутры самога Камітэту. Такі падход быў-бы прымітыўны. Гэта ня значыць, што трэба зачыніць вочы на моцныя ўплывы (расейскія) на Камітэт звонку. Але фактычныя прычыны няўдачаў Камітэту ляжаць у нутраных супярэчнасьцях тае палітыкі, якую яму даручана праводзіць у жыцьцё.

(Канец будзе)

## ВЫНІКІ МІСІІ ІЛЬВА ДАБРАНЬСКАГА

Як мы ўжо ўспаміналі ў папярэдніх нумарох нашае газэты, схіліўшыся на прапановы Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня, украінскія дзеячы з Кангрэсавага Камітэту выехалі ў пачатках мінулага месяца у Эўропу, дзеля скліканьня там агульна-украінскае нарады у справе магчымасьцяў уваходу украінцаў у г. зв. Каардынацыйны Цэнтар. Падавалі мы таксама, усьлед за амэрыканскай прэсай, і аб тым, што перамовы гэтыя йдуць. Сяньня, як быццам, ёсьць ужо й вынікі успомненых нарадаў. Уся украінская прэса, з рознымі камэнтарыямі й без іх, падала аб гэтым шырака ў шмат якіх сваіх газэтах.

Як і можна было спадзявацца, — вынікі нарадаў няпрыхільныя да Цэнтру.

Адмыслова створаная дзеля перамоваў г. зв. Тымчасовая Дзелавая Камісія аб усёй гэтай справе інфармуе (газ. „Свабода", нум. 7):

—„Падаецца да ведама грамадзянства, што на супольнай нарадзе дэлегацыі Украінскага Кангрэсавага Камітэту з прадстаўнікамі украінскіх палітычных установаў ды арганізацыяў у днях 19-20 сьнежня м. г. у Мюнхэне, была пакліканая Тымчасовая Дзелавая Камісія, якая мела ўстанавіць перадумовы украінскага ўдзелу ў супроцьбальшавіцкай акцыі розных амэрыканскіх колау, зьбіраць пагляды на гэтую справу шырокіх кол украінскага грамадзянства й трымаць лучнасьць з Украінскім Кангрэсавым Камітэтам Амэрыкі ды з належнымі амэрыканскімі дзейнікамі ў справе далейшага паступаньня на аснове выробленых пазыцыяў.

27-га сьнежня адбылася агульная нарада украінскіх палітычных установаў. Тымчасовая Дзелавая Камісія ўважае пазыцыі, выробленыя гэтаю нарадаю, — высновамі сваіх паглядаў на гэтую справу.

Упаўнаважаныя прадстаўнікі украінскіх палітычных установаў ды арганізацыяў у Эўропе, заслухаўшы інфармацыі дэлегацыі Украінскага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі ў справе „Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня Народаў Расеі" і правёўшы належную дыскусію, сабраліся 27-га сьнежня на асобную нараду й абвесьцілі ад імя сваіх установаў (тут пералічаюцца ўсе)... аднагодна наступныя пазыцыі, як абавязкавы кірунак украінскае палітыкі па гэтым пытаньні:

Супрацоўніцтва украінскіх палітычных сілаў з рознымі амэрыканскімі коламі на адрэзку супроцьбальшавіцкага змаганьня, абапёртае на належнай пляцформе, патрэбнае так для украінскага вызвольнага змаганьня, як і для агульнага супроцьбальшавіцкага ходаньня. Таму гэтыя украінскія палітычныя ўстановы заяўляюць аб сваёй наважанасьці праводзіць змаганьне проці бальшавізму й расейскага імпэрыялізму супольна з амэрыканскімі супроцьбальшавіцкімі коламі на належных перадумовах.

Усе згодна ўважаюць, што на аснове палітычнае канцэпцыі й арганізацый-

(Канец на 4 бач.)

М. Мозыр.

# »Даугая рука дыктатара«

### 3. Высланьне й выгнаньне.

У 1927 годзе, прадстаўнікі Г. П. У., зьявіўшыся на кватэру Троцкага, даручылі яму ордэр на высылку ў Алма-Ата у Казахстане. Троцкі сьпярша не хацеў пусьціць агентаў у свой пакой, і, наагул, адмовіўся выканаць іхні загад аб выезьдзе ня толькі ў Казахстан, але й абы-куды. Ён думаў, што Палітбюро хацела-б прадставіць вачом працоўных усю справу із ягонай высылкай, як дабраахвотную згоду й паразуменьне. Таму, жадаючы выявіць праўдзівае палажэньне й паказаць усім, што над ім чыніцца гвалт, — Троцкі й спрабаваў пратаставаць. Сярод прысланых да Троцкага агентаў ГПУ быў адзін, па прозьвішчы Кашкін, даўнейшы супрацоўнік Троцкага. Доўга ня думаючы, ён выламаў цяжкім малатком дзьверы ў габінэт Троцкага й сказаў яму: — „Страляйце ў мяне, таварыш Троцкі, страляйце"! На гэтыя правакацыйныя словы Троцкі спакойна адказаў' „Кіньце глупствы, таварыш Кашкін і рабеце сваю справу". І „справа" была зробленая: „малайцы" з ГПУ на руках даваляклі Троцкага да аўта, а тады, пасадзіўшы ў цягнік, із вялікімі цяжкасьцямі завезьлі з жонкаю й сынам у Алма-Ата, места на мяжы з Кітаем, раскіненае ў сьцэну Цянь-Шаньскага горнага хрыбту, за 4.000 кілямэтраў ад Масквы. У Казахстан Троцкі быў высланы як „контррэвалюцыянэр" (цікавыя парадоксы здараюцца у жыцьці!) па 58 арт. Угалоўнага Кодэксу, дарма што быў ён якраз тым чалавекам, які тварыў рэвалюцыю й зацята змагаўся з контррэвалюцыяй.

Партыйныя колы сустрэлі вестку аб высылцы Троцкага ў далёкі Казахстан з палёгкай. Варашылаў сьмяяўся:

— „Калі й памрэ, — ня хутка даведаемся!"

У Алма-Ата Троцкія атрымалі кватэру ў горадзе. Ім дазволілі перавезьці сюды й хатнія рэчы й бібліятэку, а навет „пішучыя" машынкі, на якія мясцовыя жыхары глядзелі, як на дзіва. Троцкі прысьвячаў шмат часу літаратурна-публіцыстычнай працы, атрымоўваў вялікую колькасьць лістоў праз легальную й нелегальную пошту, навет хадзіў на паляваньне. Адно, што здароўе ягонае пагоршала, а на ўзьверх — ён захварэў на казахстанскую малярыю. Аднак, Троцкі ўпарта трымаўся свае ролі, праваднра, рассылаў загады сваёй апазыцыі, справы якое былі для трацкістых даволі спрыяльныя. У Маскве, Ленінградзе й буйных прамысловых цэнтрах працоўныя хваляваліся, патрабуючы ад Палітбюра праўды, партыйнае змаганьне пагражала йзноў разгарэцца буйным пажарам... У выніку ўсяго гэтага Сталін выслаў Троцкаму праз ГПУ ультыматум: спыніць кіраваньне апазыцыйным змаганьнем, бо йнакш ён, Троцкі, будзе цалкам ізаляваны й яму будзе забаронена браць удзел у палітычным жыцьці. Троцкі адказаў на Сталінавы ультыматум адмоваю падпарадкавацца загаду.

— „Узурпатары улады — фракцыя Сталіна і ейны орган ГПУ ня можа мяне ізаляваць ад палітычнага жыцьця. Я ведаю свой абавязак і выканаю яго да канца".

Тады, у 1929 г. у студзені, ГПУ выдала, згодна із загадам Сталіна, гэткую пастанову:

„Слухалі: Справу грамадзяніна Троцкага Ільва Давідавіча па арт. 58 Уг. Код. па абвінавачаньню ў контр-рэвалюцыйнай дзейнасьці, што выявілася ў арганізацыі нелегальнай антысавецкай партыі... у падрыхтоўцы зброўнага выступленьня супроць савецкае ўлады.

Пастанавілі: Грамадзяніна Троцкага Ільва Дав. — выслаць за межы СССР".

Упаўнаважаны ГПУ перадаў гэтую пастанову Троцкаму й зажадаў, каб той пасьветчыў атрыманьне подпісам. Троцкі напісаў:

— „Злачынная зьместам і беззаконная па форме пастанова ГПУ мне абвешчаная.

Троцкі".

Калі Троцкі запытаўся ў прысланага да яго ўпаўнаважанага ГПУ, куды-ж маняцца яго выслаць, — той сьпярша прабаваў выкруціцца тым, што быццам, нічога ў гэтай справе ня ведае, але пасьля прызнаўся, што ў Турцыю, у Канстантынопаль.

— „У Турцыю? — зьдзівіўся Троцкі. — Значыцца ў вас нейкае пагадненьне з турэцкаю паліцыяй?"

Упаўнаважаны коратка адказаў: — мы толькі выканаўцы!

Троцкі быў нязвычайна абураны, даведаўшыся, што ўлада Сталіна навязала ўжо лучнасьць ды супрацоўніцтва з гэткімі установамі, як розныя буржуазныя „ахранкі". Ён ізноў адмовіўся падпарадкавацца пастанове сталінскае клікі дабраахвотна.

Але гэта было зусім і непатрэбнае ГПУ. Ягоныя казахстанскія агенты гвалтам вывезьлі Троцкага з Алма-Ата, прывезьлі да граніцы з Турцыяй і з рук у рукі перадалі аднаго з творцаў рэвалюцыі „буржуазнай" турэцкай паліцыі.

### 4. Сталін ірве валасы.

Самперш Сталін усьцешыўся, што нарэшце выгнаў Троцкага за межы СССР і пазьбегнуў далейшых клопатаў з сваім найгоршым ворагам. Із дапамогаю ГПУ ён пільна ўзяўся за вынішчэньне ўсяго „трацкіцкага насеньня" у СССР. Аднак, ужо неўзабаве Сталіну давялося пераканацца, што высылка Троцкага ў Казахстан і выгнаньне за межы былі адно памылкамі, што й ён, і ягонае ГПУ напросту ашукаліся, бо Троцкі знайшоў спосабы дзейнічаць і за межамі. Ён разгарнуў ажыўленую дзейнасьць, навязаў новыя ніці й узначаліў ужо не савецкую, а міжнародную партыйную апазыцыю супроць Сталіна й ягонае партыі. Слава Троцкага, як творцы й кіраўніка 4-га Інтэрнацыяналу была яшчэ вялікая. Троцкі й ягоныя прыхільнікі станоўка цьвердзілі аб непазьбеглай перамозе трацкізму й канчальнай паразе Сталіна. Апрача гэтага, Троцкі ў кажным сваім друкаваным у прэсе артыкуле, у кажнай выгалашанай прамове — жорстка нападаў на Сталіна, ганьбіў ягоныя мэтады, выкрываў ягоную натуру, ягоную злачынную хітрасьць, бяспрынцыпнасьць, высьмейваў ягоную няздольнасьць да палітыкі, ягоны бюракратызм, грубасьць, самадурства, самаўпраўства, дурную упартасьць, тлумачыў вартасьць ягоных манлівых асьветчаньняў, інтрыгаў, палітычнага ашуканства, гаварыў аб ягоным хваравым себялюбстве, імкненьні абагаўляць сябе й г. д. — адным словам, Троцкі на ўвесь сьвет крычаў і аб дыктатару і аб ягоных памагатарах, пераконваў у тым, што бальшавізм перарадзіўся у Расеі у запраўдную жорсткую дыктатуру.

Сталін, ведама, злаваў, нэрваваўся. Асабліва баяўся ён кнігі Троцкага „Сталін", якую той рыхтаваў да друку. Пакрысе страх і ненавісьць Сталіна ў дачыненьні да Троцкага сталіся запраўднай хваробай. Сталін ірваў валасы,

